ISSN 0700-5172

*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! — К.Каліноўскі*

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!

# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў.

ZVAZAJ. Veterans quarterly published by Liaison Committee of Belarus War Veterans. Canada office: 57 Riverdale Ave. Toronto, Ont., M4K 1C2. U.S. address: 9 River Rd., Highland Park, N.J., 08904, U.S.

**Год 18** **Люты, 1992** **Нр. 1 [65]**

## КЛІЧУЦЬ РОДНЫЯ НІВЫ

Ад нас далёка ў Беларусь. Газэты адтуль рэдка прыходзяць. Весткі пра яе, нашу бацькаўшчыну, ловім зь мідыя, — сусьветнай сеткі, што мае свае вушы й вочы. Тут-жа розныя "выдатныя саветалёгі" барабаняць пра тыя гістарычныя падзеі, што табе ажно вушы абляпаюць. Пра Беларусь, фармальна ўжо незалежную, чуваць рэдка, бо ёй, параненай Чарнобылем і залітай "братняй" расейшчынай, відаць, найцяжэй на сусьветную арэну выкараскацца.

Тут, за межамі рэспублікі Беларусь, сярод інтэлектуалаў і іншых амбіцыямі адыёзных у палітыцы разумнікаў, пануе створаны некалі Варшавай і Масквой антыбеларускі рэфлекс. У іншых макаўках загнязьдзіўся быццам экзатычны для іх "мінск і пінск" некалі *нашымі эмігрантамі яшчэ перад першай вайной сюды прывезены.*

А запраўднасьць, — пасьля краху імпэрыі зла й фармальнага стварэньня Супольнасьці Незалежных Дзяржаваў (СНД), — якая яна? Разважаеш пра яе, а гэтта табе прыгадваецца тая гумарыстычная песьня:

*Чаму-ж мне ня пець, чаму-ж ня гудзець,*
*калі ў маёй хатачцы парадак ідзець.*

Падумаем... Гэтая апошняя "садружнасьць" нарадзілася, відаць, у Маскве, значыцца там, адкуль стагодзьдзямі да нас усякая трасца плыла. Выглядае, што яна, розная трасца, і далей адтуль да нас плысьці зьбіраецца. Кастусь Каліноўскі ў сваім лісьце спад маскоўскае вісельні сказаў Беларусам: тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табой маскаля ўжо ня будзе! У тыя часы, калі правадыр усенароднага антымаскоўскага паўстаньня зьвяртаўся да запрыгоненых сялянаў і ўсіх іншых, маскалямі называлі ў нас ня толькі Расейцаў, але перадусім усякіх мясцовых чыноўнікаў-паразітаў ды рознае масьці носьбітаў ненавіснага акупацыйнага рэжыму.

Із суседзямі мусім жыць мірна, гандляваць, памагаць адзін аднаму. Расейскі народ, як і іншыя суседнія нам народы, жыве ў цяжкім становішчы, як і мы,пасьля краху імпэрыі зла. Іншая справа — нашыя намэнклатурныя маскалі.

Дзе-ж яны цяпер? Іх па цэлай бэсэсэрыі была маса. Вас, удома, яны трымалі ў няволі, а нам, што за межамі, яны фашысьцілі (называлі фашыстамі) дзесяцігодзьдзямі. Калі забаранілі КПСС, дык тыя паразіты-дармаеды пераапрануліся, перахварбаваліся, на іншыя пасады перабраліся. Трэба іх шукаць і з наседжаных ці новых аблюбаваных месцаў вывалакаць.

У дзень Калядаў з таго мідыя прыйшла да нас вестка. Немцы (ня германцы), завезьлі ў Санкт Пецярбург 80 тысячаў кэр-пакетаў, зн. харчавых пачак. У рукі тых найбяднейшых, **— а дзялілі пачкі мясцовыя ўлады, —** трапіла толькі 10 тысячаў. А дзе падзелася рэшта? Калі такое адбываецца ў Санкт Пецярбургу, то што гаварыць пра наш Менск, дзе атаўбавалася бальшавіцкая вандэя?

Трэба ўстанавіць новае выбарчае права, перавыбраць парлямэнт, будаваць нанава ўсю адміністрацыйную сыстэму зьнізу, дзе сядзяць і фактычна пануюць над народам, абкрадаюць яго ненавісныя народу цівуны... Гавоські пустыя, і марша галодныя кішкі іграюць, а побач сядзіць над табой і сыцее дармаед. Твая сіла цяпер у вольных выбарах. Вон цівуноў!

Трэба ўсе намаганьні палажыць на адбудову беларускае культуры, пачынаючы ад навукі ў школах, ад роднай мовы. Парасткі культурнага адраджэньня ёсьць, але яны надта-ж кволыя і нягеглыя. Тымчасам расейшчына ня толькі дамінуе, яна прагрэсуе. Калі во так паволі будзе тое адраджэньне валюхацца, дык у недалёкай будучыні на месца беларускага дзяржаўнага народу прыжывецца на спустошанай, зганьбаванай нашай зямлі **беларускае зямляцтва...**

**Якой помачы чакаць ад заходніх дэмакратычных краінаў? Абяцаюць навуковую і тэхнічную помач, арганізацыю вольнай банкавай сыстэмы, сельскагаспадарчай прадукцыі, вольнага рынку, каторы вось ужо робіць першыя крокі удушлівым для спажыўцоў павышэньнем цэнаў. Добра будзе, калі знойдуцца фонды, так як іх знайшлі для Польшчы й Вэнгрыі, на пазычкі для дробнага гандлю й трэніроўкі пэрсаналу. Можна спадзявацца і на большыя пазычкі, але не ахвяры, бо многія дэмакратычныя дзяржавы самі сядзяць у даўгох.**

**Трэба ўважаць і добра прыглядацца як пачнецца наплыў** *розных спэцаў*, якія будуць суліць вам няведама што. У іхным кодле якраз найбольш зладзеяў і розных спэкулянтаў із самымі вялікімі апэтытамі на нажытак.

Не перашкодзіла-б шмат каму вяртацца з гарадоў нават у "няпэрспэктыўныя вёскі", брацца за сумленную і прадуманую апрацоўку зямлі. Мы-ж ужо былі не ў адным сьвеце, якім кіравалі махляры, што знайшлі адказы на ўсе пытаньні зямнога жыцьця ды нават самога Бога спрабавалі замяніць. Прыгадваецца Вольтэрава "Кандзіда". Гэрої яе падарожнічалі па цэлым сьвеце, адкрывалі Эльдорада і іншыя краі, а пасьля ўжо, зьнямоғаныя і пакалечаныя, вярнуліся дамоў і сказалі: трэба даглядаць свой агарод!

Нам-жа ня толькі агарод даглядаць, але аднавіць зруйнаваныя сьвятыні, адбудаваць Беларускую Праваслаўную Аўтакефальную і незалежную ад Масквы царкву, спыніць палянізацыю народу праз каталіцтва, аднавіць зруйнаваную індустрыю, культуру, навуку, экалёгію. І гэта усё побач змаганьня з заразай Чарнобыля. Божа, памажы!

Мы раім падтрымліваць Беларускі Народны Фронт!

## НЯМА ГОРШЫХ СЬЛЯПЫХ ЧЫМСЯ ТЫЯ, ШТО НЯ ХОЧУЦЬ БАЧЫЦЬ

Як-жа заходняе мідыя перадавала й камэнтаравала падзеі
краху імпэрыі зла, асабліва-ж аднауленьне незалежнай рэспублікі Беларусь?

Калі ідзе пра прэсу, дамо прыклад з канадыйскай.

Пра Беларусь мала гаварылі й пісалі. Амаль празь меру было пра Гарбачова, а пасьля пра Украіну. Ці не найбольш увагі прысьвяцілі тэме п. заг. "што будзе маскоўскі мядзьведзь рабіць зь дзясяткамі тысячаў ядзерных ракетаў у руках Расеі?" Пра Беларусь і Украіну казалі, што яны ўсе свае ядзерныя ракеты абяцалі з амэрыканскай дапамогай ліквідаваць.

Зьмешчаныя гэтта выразкі з газэты Таронта Сан ілюструюць зьбянтэжанасьць Канадыйцаў адносна Беларусі. Возьмем загаловак перадавіцы за 10-га сьнежна: "Мінск у нейкім пінску". Што гэта за цымус і адкуль ён?

Некалі Жыды зь Беларусі, перабраўшыся за акіян, узяліся будаваць Амэрыку. У Ню Ёрку залажылі тэатр і назвалі яго Мінскі барлеск. Зрабілі пасьля з гэтым назовам фільм, дзе паказвалі паліцыйны налёт на нейкі стрыптыс. Адсюль "мінск і пінск" у час, калі модная была тут камэдыя накіраваная супраць усякіх этнікаў, упісаўся ў гумар як нейкая дзіўная экзотыка.

Цікава, што гэты банальны "гумар" выцягнуў наверх Пітэр Уортынгтон, ведамы журналіст, што працаваў карэспандэнтам таронцкай газэты "Тэлеграм" у Маскве, пасьля быў рэдактарам "Таронта Сан".

А ню ёркскі часапіс "Тайм", — паверыце? — (гл.адбітак) перанёс наш Вітэбск... на Украіну. Здорава.

Некалі зьмяшчаліся мае кароткія артыкулы й лісты ў "Таронта Сан" на працягу 15 гадоў. Тэма іх: камунізм і маскоўская акупацыя Беларусі ды безгалоўе канадыйскіх палітыкаў (перадусім Трудо) у адносінах да паняволеных народаў зь "імпэрыі зла". Здарылася чарнобыльская катастрофа. Гаварылі і пісалі пра Украіну й Расею, а пра Беларусь ані-ні. Тады давялолся ў лісьце да "Таронта сан" спытацца: навошта гэты абман? Калі-б тыя беларускія землі й людзі, на поўнач ад Чарнобыля, належалі да Ізраіля, ці й тады пра іх маўчалі-бы?

Ішло пра тое, што Ізраілю ў заходнім мідыя кажны дзень прысьвячаюць аграмадную долю часу й грошы.

Гэнага майго ліста не зьмясьцілі, на яго не адказалі і паміма таго, што я й пазьней пасылаў свае камэнтары на цікавыя тэмы, доступ у газэту закрылі.

Кусьлівы народ...

Агулам-жа ў вонкавым сьвеце пра рэспубліку Беларусь, адкуль яна ўзялася, мала дзе хто ведае.

*К. Акула*

10 The Toronto Sun, Tuesday December 10, 1991

Proprietor-The Toronto Sun Publishing Corporation, 333 King St. E., Toronto ONT., M5A 3X5 947-2222
October paid circulation Monday-Friday 269,932

# Minsk in a pinsk

The captain swam up from his sunken ship yesterday and announced another meeting to set a new course even though those in the lifeboats want nothing to do with him.

Mikhail Gorbachev's presidency is now filled with so much futility, they didn't even invite him to watch as more holes were smashed in the ship of state.

Yet the president of a union that no longer exists perseveres. He is calling for the parliament of the non-existent union to discuss the non-existent union's future.

It should be a short meeting if anyone shows up.

Gorbachev wasn't there last weekend when the leaders of the three most powerful Soviet republics announced a new Slavic "Commonwealth of Independent States" with headquarters in Minsk of all places.

russia. The CSS (Commonwealth of Slavic States) or whatever it calls the union of Russia, Ukraine and Byelorussia, comprises roughly 70%-75% of the USSR — both land mass and people — and seems a sensible, viable alternative to the old USSR.

It'll take a bit of getting used to — Minsk as the capital of the new union, instead of Moscow. To many it will sound more like a vaudeville joke than a capital. St. Petersburg for Leningrad is terrific. But Minsk? Well, it sounds better than Omsk ...

Meanwhile, the cry for justice, understanding and help, continues to rise from Croatia, where Serbia, by sheer military might, is redefining the borders. Of course we should recognize Croatia's right to be independent. But don't expect any world leader, not even a secondary leader like Mulroney to stand on principle When did a world leader last

**TIME, DECEMBER 23, 1991**

Living conditions for the troops are grim. Officers stationed in the Ukrainian town of Vitebsk have set up housekeeping in a stable. Soldiers in what was then called the Leningrad Military District built pigsties and planted vegetable gardens last spring so they would be assured of having food this winter. Barracks across the country have run out of new clothing, as well as medical supplies, parachutes and gasoline.




## ХАРЧОЎ МАЛА, А ЗБРОЮ КУЮЦЬ...

29-га сьнежня амэрыканскі міністар абароны Дык Чэні заявіў: — Мы бачым намаганьні ў калішнім Савецкім Саюзе, каб выпрадукаваць яшчэ больш ядзернай зброі і нарыхтаваць новыя ракеты накіраваныя супраць Злучаных Штатаў. На далейшую мэту гэта недапушчальна.

Заправўды, былышы Савецкі Саюз мае звыш 27 тысяч ядзерных ракетаў; няма сумлеваў, што ваенная індустрыя, у якой працуе прынамсі 50 мільёнаў людзей, далей прадаўжае рабіць танкі, самалёты, артылерыю, падводныя лодкі, баявыя мараплавы і ўсе прычындалы патрэбныя для 4-мільённай арміі.

Навошта, каму гэта патрэбна? Адказ, перадусім, знойдзеце ў доўгіх чэргах акалелых, з пустымі авоськамі, людзей ня толькі ў зганьбаванай і абрабаванай, Чарнобылем заражанай і на сьмерць параненай Беларусі...

## УВАЗЕ СУРОДЗІЧАЎ УДОМА

Усіх зацікаўленых, асабліваа групы, што жадалі-бы прыехаць у Канаду, каб ладзіць якія выстаўкі ці канцэрты, каб атрымаць адпаведныя інфармацыі, зьвязаныя з гэтым, просім зьвяртацца да нашых арганізацыяў:

Belarusan Coordinating Committee, Dr. R. Zuk-Hryskievic, 524 St.Clarens Ave., Toronto, Ont., M6H 3W7.

або:

Belarus Canadian Alliance, M. Ganko Chairman
тэйсамы адрас.

## ATTENTION EDITORS, JOURNALISTS! BELORUSSIA BECOMES BELARUS!

On Sept. 19, 1991, the Supreme Soviet of the BSSR adopted the following resolution:

The Belorussian Soviet Socialist Republic is to be known henceforth as the REPUBLIC OF BELARUS, and in its shortened and compound forms as BELARUS. These names are to be transcribed into other languages in accordance with the original.

This change is effective as of the date of this resolution.

In accordance with the above resolution, it is recommended that in English usage the name of the republic be written in the following manner: BELARUS, as it always was in its own language [the former spelling in English of Belorussia was an exact transliteration of the Russian name].

In adjective form in English it should remain the same , e.g. Belarus language, Belarus people, etc. An acceptable alternate can be the addition of the adjective ending' an, BELARUSAN, spelled with a single 's' and pronounced with an ess sound.

Correct: BELARUS, BELARUSAN. Wrong: Byelarus, Byelorussia, Byelorussian, Byelorus, Belorussia.

Belarusan-American Information Service
449 R. York St. Hanover, Pa. 17331
W.Melianovich, Director. 12.18.1991

## МАЦІ МОВА

**Маці Божая чыстае моцы,
ўсёпрывідная воля Твая!
Уздымі беларускіх маці
над галовамі гадаўя.**

**Прывітаная ва ўсіх мовах,
міласэрдзем сагрэўшая ўсіх,
уздымі атупелагаловых
хоць на ўзровень сябе саміх.**

**Толькі тут маці Мову душаць,
да пякельнае прорвы дайшлі.
Уздымі іх адсутныя душы
да Маці Малітвы душы.**

**Уздымі іх да мовы птушкі.
Над маўкліваю пасткай пастой,
дзе матуля сьмяецца з дачушкі,
як шчабеча на Мове сьвятой.**

**Ускалыхні іх нутро нямое.
У лядоўні-сэрцы ўвайдзі,
каб Маці, Малітва, Мова
атрымалі статус адзін.**

*20.9.1991* **Данута Бічэль Загнетава**

## ЗАБОЙЦА ЗГАДВАЕ ПРА КАТАЎ

Калі 15 тыс. польскіх афіцэраў, што трапілі ў рукі савецкай арміі ў красавіку 1940 г., вывелі і адразу пачалі расстрэльваць, ніхто ня верыў што прыйдзе дзень развалу Савецкага Саюзу і што выяўленыя будуць дэталі таго злачынства. Лёнданскі "Таймс" (7.10.1991 г.) паведамляе пра прызнаньні Ўладзімера Такарава, якому цяпер 89 гадоў, і які даў абвінаваўцам Савецкай Арміі справаздачу "пра жахі" ягонай асабістай ролі ў тых забойствах. Брытанскі лорд Бэтэл прывёз з Масквы ў Лёндан запісанае на істужцы інтэрвю з Такаравым.

Такараў расказвае як каты, па загаду палітбюра Камуністычнай Партыі, стралялі Палякаў, аднаго за адным. За ноч мардавалі па 250 чалавек у глухіх камэрах.

Адну групу Палякаў з абозу завезьлі ў вязьніцу ў Калінін, на поўнач ад Масквы. Тры забойцы прыехалі са скрыняй нямецкіх рэвальвэраў, якія лічыліся больш спраўнымі за савецкія. Такараў апавядае: — Я быў там у першую ноч расстрэлаў. Блохін (адзін з афіцэраў, што прыслала Масква) зьяўляўся галоўным забойцам. Зь ім было каля 30 іншых, пераважна шафёраў КДБ і вартаўнікоў... Я прыгадваю, як Блохін загадваў: — Давайце, пачынаем! І тады ён апранаўся ў сваю спэцыяльную уніформу для гэтай работы: рудую скураную шапку, руды скураны хвартух і рудыя скураныя рукавіцы даўжынёй вышэй локцяў. Яны былі жахлівай адзнакай ягонага рамяства. Я ўсьведаміў сабе, што ўпяршыню твар у твар сустрэўся з запраўдным катам.

Палякаў яны вялі, аднаго за другім, калідорам, паварачвалі налева і вялі іх у Чырвоны Кут, адпачывальню абслугі вязьніцы. Кажнага мужчыну пыталіся імя, прозьвішча й дату нараджэньня — для ідэнтыфікацыі. Тады яго вялі ў суседні пакой, таксама глухі, і стралялі куляй у патыліцу.

Такараў цьвердзіў, што людзям ня чыталі ніякіх прысудаў суду ці спэцыяльнае камісіі. Забойствы заўсёды рабілі пад прыкрыцьцём цемнаты. Трупы выносілі праз заднія дзьверы, ладавалі на пакрытыя грузавікі і адвозілі у выкапаныя экскаватарамі ямы. Пасьля начных расстрэлаў забойцам давалі водку.

— Калі ўжо ўсё скончылі, тры чалавекі з Масквы наладзілі вялікі банкет. Назалялі і мне, каб узяў удзел, але я адмовіўся, — казаў Такараў сваім сьледавацелям.

Апэрацыю арганізаваў Пётра Сопруненко, якому цяпер 83 гады. Ён падпісваў загады на перасылку Палякаў у КДБ, дзе іх масава забівалі. Лорд Бэтэл кажа, што Сопруненко не прызнаваўся сьледавацелям пра сваю ролю. Апраўдваўся, што ня памятае дэталяў, ухіляўся ад адказаў калі яму давалі доказы. Савецкае расьсьледваньне пачалося ў лістападзе 1990 г., пасьля таго, як Масква прылюдна прызналася, перад падарожжам Гарбачова ў Варшаву, што Савецкі Саюз мардаваў афіцэраў, а не нацысцкія нямецкія захопнікі згодна ранейшае вэрсіі пасьля таго, як масавыя магілы былі адкрытыя ў Катыні.

Сьледавацелі апытвалі сто чалавек, заангажаваных у забойстве і маюць prima facie доказы супраць Сопруненко й Такарава, але ня могуць іх абвінавачваць. Згодна статуту абмежаваньня нельга абвінавачваць пасьля 15 гадоў часу.

*Матыў*: Польскія афіцэры належалі да клясы Польскае Буржуазіі. Карл Маркс настайваў, што людзі з гэтае клясы маюць быць: **»Зьмеценыя з дарогі, абясшкоджаныя!«**

У ліку вымардаваных Сталінам польскіх афіцэраў былі, як вядома, і Беларусы.

Christian Anti-Communism Crusade. Long Beach. Ca. Nov. 15, 1991.

## *БЫКАЎ ПРА ЭМІГРАЦЫЮ*

Часапіс "Полацак", нр. 9, зьмяшчае інтэрвю зь пісьменьнікам Васілём Быкавым. На пытаньне: — Як вы думаеце, чым нам можа дапамагчы беларускае замежжа? — Быкаў адказаў:

— На гэтую тэму мне нават гаварыць сорамна таму, што, відаць, унікальны ў гісторыі выпадак калі мэтраполія просіць дапамогі ў сваёй няшчаснай, выгнанай у свой час, дыяспары. Гэта жахліва. Магнатаў, міліянераў сярод іх, нашых землякоў, няма. Беларусы, якія жывуць за мяжой, свой дабрабыт нажылі цяжкой працай на чужыне. І цяпер мы, якія палівалі іх гразёй, ня лічылі іх за людзей, а толькі за здраднікаў і злачынцаў, цяпер мы вядзём зь імі гутаркі, каб яны нас кармілі. Гэта амаральна, гэта проста сорамна. І калі яны йдуць нам на дапамогу, дык і ім гэта даецца ня так проста.

Беларуская дыяспара вельмі ўнікальная ў тым, што яна зьберагла нашу дарэформенную мову. Наша-ж партыйная газэтчына разбурыла ўсю нацыянальную мову, а што засталося, дык засталося спаганеным. Эміграцыя нам нічога не павінна, а мы павінны ёй.

Крэпасьць Сушу, як стратэгічна малазначную, браць не сьпяшаліся. А вось Сокал патрэбна было захапіць любым коштам. Сюды пайшлі зь вялікімі сіламі гэтман М.Мялецкі, Крыштаф Радзівіл і Раздражэўскі зь нямецкімі наёмнікамі. Пасьля сэрыі сутычак, моцная залога Сокала спрабавала ўцячы, але была ўвагнаная назад. 11 верасьня, пасьля колькіх дзён штурмаў, жаўнеры саюзьніцкага войска ўварваліся ў палаючую крэпасьць. Помсьцячы за сваіх загінуўшых таварышаў, Немцы ўчынілі страшную разьню: яны забівалі нават тых, хто здаваўся й прасіў літасьці. Іван Жахлівы пасьля колькі разоў дакараў Сьцяпана Батуру за гэтую лютасьць. Сокал скончыў сваё існаваньне: умацаваньні цалкам зьнішчыў пажар, а рэшту гарнізону пераможцы забралі ў палон.

Калі дайшла чарга да Сушы, яе абаронцы 16 кастрычніка ўцяклі з фартэцыі, пакінуўшы там вялікую колькасьць баезапасаў і зброі, а таксама абсалютна цэлыя ўмацаваньні. Войскі Рэчы Паспалітай прыстасавалі яе пад свой склад.

Нарэшце ў сьнежні 1579 г. казацкі корпус раптоўным налётам захапіў Няшчэрду. Гэтым афіцыйна канчалася кампанія першага этапу вайны Сьцяпана Батуры з маскоўскім царом. Хоць да поўнага вызваленьня Полаччыны заставалася выбіць няпрыяцеля зь Себежа, Завалачча і замкаў Віцебскай зямлі — Азярышча ды Усьвятаў, задачы кампаніі былі пасьпяхова выкананы. На зіму ў Полацку засталіся невялікія сілы — 1350 чалавек, а кіраўніцтва імі пераняў новы полацкі ваявода Мікалай Дарагастайскі. Падчас Полацкае кампаніі было забіта ці ўзята ў няволю каля 10 тысяч маскоўскіх ратнікаў і 16 ваяводаў. Здабытыя трафеі склалі 120 цяжкіх гармат і некалькі сотняў зацінных пішчалаў, мноства ручной агнястрэльнай зброі[0]. У наступным годзе, падчас паходу на Вялікія Лукі, войскі Рэчы Паспалітай канчаткова ачысьцілі тэрыторыю Беларусі ад захопнікаў.

........................................................................................................

[2]) Natanson-Lecki J. Dzieje granicy wschodniej. str. 171.

[3]) Литовская метрика. Отдел первый. Часть Ш. Книги публичных дел. Переписи войска литовского. Пн., 1915. РИБ. Т. 33, сл. 1375-1378.

[4]) Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1915, С.273.

[5]] Katarski H. Wojsko polsko-litewskie podczas wojny inflanckiej 1576-1582. cz.II. str. 79.

[6]) Лаппо И.И. Великое княжество Литовское во время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569-1586). Т.,. Спб., 1901, с. 179.

[7]] Katarski H. Wojsko polsko-litewskie podczas wojny inflanckiej 1576-1582. Cz. II. SMHW. T. XVII. s. 104.

[8]] Natanson-Lecki J. Epoka Stefana Batorego w dziejach granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1930. s. 46

[9]) Василевский В. Польская и немецкая печать о войне Батория с Иоанном Грозным. Журнал Министерства народного просвещения. 1899, февраль, Спб., С.357.

[0]] Katarski H. Wojsko polsko-litewskie podczas wojny inflanckiej 1576-1582, s.104.

## ПАПРАЎКА

**У н-ры 4(64) "Зважай", у артыкуле "Пра самаачышчэньне і пакаяньне" ёсьць памылка друку. У 36-м радку зьверху напісана — (чэрвень, 1947 г., Грэск), трэба чытаць — (чэрвень, 1944 г., Грэск).**

## ЯШЧЭ АДЗІН ПРАЕКТ

**Культурны цэнтр "Беларусь" у Алма-Ата прыслаў і нам свой праект "Мерачоўшчына-Касьцюшка" з заклікам, каб складалі ахвяры на фонд стварэньня мэмарыяльнага збудаваньня "Мерачоўшчына-Касьцюшка". Дзякуем. Спадзяемся, што нашыя суродзічы па цэлым сьвеце гэткі праект абмяркуюць, а калі будзе патрэба, мы зьмесьцім сам праект і рэплікі на яго ў будучых нумарох нашага часапісу.**

## *КРАЯЗНАЎЧАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ Ў ГЛЫБОКІМ*

17-га верасьня летась у Глыбоцкім "белым доме" праходзіла навукова-практычная канфэрэнцыя па гісторыі і краязнаўству гораду Глыбокае і Глыбоцкага раёну, якую ладзіў Глыбоцкі райвыканкам. Запрашэньне на гэтую канфэрэнцыю і прапанову выступіць з дакладам я атрымаў загадзя, недзе за два месяцы.

Калі быў у жніўні ў двухтыднёвым водпуску ў Глыбокім, то зайшоўся ў "белы дом" да сп-ні Т.Д.Савуліч, намесьніка старшыні райвыканкаму, даведацца пра праграму і ўдзельнікаў. Дарэчы, гэта было 20-га жніўня, на другі дзень путча. У сьпісе ўдзельнікаў было шмат вядомых гісторыкаў, архітіктараў і архэалёгаў. Я быў вельмі ўражаны цікавасьцю спадарыні Тацьцяны Дзьмітрыеўны Савуліч да мае асобы. Яна, як высьветлілася, захоўвае ў папцы газэты з маімі артыкуламі на краязнаўчыя тэмы і прасіла мяне абавязкава прыехаць на канфэрэнцыю.

Прыехаў я за тры дні да пачатку канфэрэнцыі, прывёз з сабою каля 20 фатаздымкаў з майго архіву пра старадаўняе Глыбокае; зь іх-жа была зроблена фатавыстаўка. Людзі прыходзілі, цікавіліся. Некаторыя ўпяршыню бачылі Беразьвецкі кляштар і яе царкву.

Нажаль, на канфэрэнцыю ня прыехала некалькі прамоўцаў, якія значыліся ў сьпісе, а між іх даволі вядомыя ў Беларусі навукоўцы: Г.А.Каханоўскі — кандыдат гістарычных навук, Ю.А.Якімовіч — архітэктар, аўтар шматлікіх кнігаў пра старажытную архітэктуру Беларусі. Бальшыня прамоўцаў выступала пабеларуску, а толькі трох зь дзесяці — парасейску. Калі я прыйшоў у актавую залю, — Матка Боская! — паўнюткая заля народу! Было тут шмат і школьнікаў, асабліва тых, што ў будучыні зьбіраюцца паступаць на гістарычны факультэт. Я ўсхваляваўся, бо ніколі не даводзілася прамаўляць з трыбуны ды яшчэ перад такой шматлікай аўдыторыяй. Коратка перадам пра тое хто й пра што гаварыў.

Цікавай была прамова Міколы Хвёдаравіча Плавінскага зь Віцебску, хаця ў цэлым яна насіла больш агульны характар і заключалася ў тым, што неабходна зьбіраць і захоўваць гістарычную спадчыну, бо народ, які ня ведае сваё гісторыі, вельмі лёгка вярнуць у няволю.

Арыгінальнай была прамова А.А.Тарыкава. Ён выказаў меркаваньне, што дату заснаваньня (першай згадкі ў летапісах) Глыбокага трэба лічыць ня 1514 год, а 1504, калі ў пісьмовых дакумэнтах згадваецца населены пункт Слабада Глыбоцкая. Наведаў Глыбокае ў свой час А.С.Пушкін і быў вельмі ўражаны гасьціннасьцю князя Радзівіла, якому належала і Глыбокае. Сп. Тарыкаў выказаў меркаваньне, што ў Беразьвецкім кляштары (улічваючы слаўную гісторыю) трэба адкрыць Унівэрсітэт, як гэта ёсьць на Захадзе, дзе ўнівэрсітэты знаходзяцца ў малых гарадох. Зыходзячы зь сёньняшніх гістарычных варункаў, Глыбокае апынулася на скрыжываньні двух міжнародных аўтамабільных дарог, — Даўгаўпілс-Менск і Полацак-Вільня, і таму трэба праводзіць мерапрыемствы для ўпарадкаваньня гораду.

Архэалёгі Л.У.Дучыч і А.В.Квяткоўская, а таксама настаўнік з Пліскай школы В.Я.Папкоў (які ўлетку з вучнямі займаўся раскопкамі) распавялі аб сваіх архэалягічных раскопках у раёне Пліса і мястэчка Падсьвільле. Сп-ні Дучыч і Квяткоўская, — абедзьве зь Менску, — з жалем гаварылі, што ў Вільні ляжаць у музэях шмат якія каштоўныя экспанаты з раскопак курганоў Глыбоччыны, якія рабіліся яшчэ да рэвалюцыі і пры Паляках. Летувісам яны непатрэбныя, яны нават прапануюць, каб мы іх забралі, але ніхто ня хоча гэтым займацца дый у Глыбокім няма музэю, у які іх можна было-б памясьціць. Наогул, як цьвердзяць архэалёгі, Глыбоцкі раён, у адрозьненьне ад суседніх, у старажытнасьці быў вельмі шчыльна заселены, таму тут шмат курганоў-валатовак і гарадзішчаў.

Малады гісторык асьпірант Уладзімер Пашкевіч зь Менску вельмі цікава распавёў якім было Глыбокае ў XVIII ст. Ён, дарэчы сказаў, што Глыбокае і ў XVIII ст. лічылася горадам, а

не мястэчкам. Праўда, былі два асобныя населеныя пункты, якія належалі розным ваяводзтвам Вялікага Княства Літоўскага: Глыбокае-горад (тое месца, дзе было скрыжаваньне вуліцаў Докшыцкай і Віленскай) належала Віленскаму ваяводзтву, а Глыбокае-мястэчка (раён касьцёлу й царквы) — Полацкаму. Па рацэ Бярэзьвіца праходзіла мяжа ваяводзтваў і мяжа ўладаньняў Радзівілаў і Корсакаў. Цікава, што ў той час гарадзкі "магістрат" прыняў пастанову, каб ля кожнае сядзібы стаяў цэбар з вадой, скрыня зь пяском, багры і г.д., бо ў горадзе стаялі шчыльна "дымы" і былі частыя пажары. У горадзе жыло шмат рамесьнікаў і гандляроў (у асноўным Жыдоў), было шмат крамаў, адбываліся кірмашы...

Сп-ня Трэпет, гісторык зь Менску, вельмі цікава распавяла пра гісторыю Беразьвецкага кляштару. Праўда, факты ў асеоўным агульнавядомыя, але гэта ўсё яна паднесла ў іншым сьвятле, што пакінула на ўсіх моцнае ўражаньне. Між іншым яна сказала, што ў сярэднявеччы падарожнікі з далёкіх краінаў, якія праяжджалі празь Беларусь, дзівіліся колькасьці старажытных замкаў. Было іх столькі, што Беларусь празвалі "краінай замкаў" і гэта пры ўсім тым, што ў Эўропе цяпер шмат замкаў, дык колькі тады было замкаў у Беларусі!!!

—Беразьвецкая сьвятыня, — сказала яна, — не пабаюся гэтага слова, зьяўляецца "лебядзінай песьняй" у гісторыі беларускай нацыянальнай архітэктуры! Яна не бяз жалю гаварыла, што нікога з архітэктараў і гісторыкаў цяпер у кляштар ня пушчаюць, каб праверыць у якім стане знаходзіцца помнік архітэктуры, бо там цяпер турма. Яна жартавала: — Можа я выйду зараз з залі і мяне "заберуць", але для нас няма ніякіх сакрэтаў, усе мы іх ведаем, бо ў Маскве ў архіве ляжаць усе пляны гэтага манастыра і калі-б паўстала пытаньне рэстаўрацыі, у нас для гэтага ёсьць неабходныя пляны й рысункі.

Язэп Бунто, мясцовы глыбоцкі краязнаўца, распавёў аб паўстаньні 1831 году ў Глыбоччыне. З Глыбоччыны пачаў сваю крывавую справу Мураўёў-вешальнік. Малады супрацоўнік музэю з Браслава К.Шыдлоўскі распавёў аб жыцьцёвым шляху польскага гісторыка Отто Гедэмана, які напісаў кнігу "Historia powiatu Braslawskiego", а таксама "Dzisna i Druja - magdeburskie miasta". Ён працаваў у Браслаўшчыне настаўнікам. Незадоўга да свае сьмерці напісаў і невялікую кнігу аб гісторыі майго гораду — "Glebokie", Wilno, 1935. Выказаў меркаваньне, каб адна з вуліц Глыбокага насіла яго імя, як гэта ёсьць у Браславе, тым больш, што вуліца з такім назовам была пры польскай акупацыі.

Я выступаў з дакладам на тэму: "Захаваем багатую спадчыну Глыбокага", які ў мяне быў падрыхтаваны на 10 машынапісных бачынах. Я выказаў меркаваньне, што трэба аднавіць Беразьвецкі кляштар уключна з царквой, а таксама тут павінен быць мэмарыяльны помнік ахвярам бальшавіцкага й фашыстоўскага генацыду; таксама выказаў меркаваньне наконт аднаўленьня і кляштару Кармэлітаў Босых. Я спыніўся над тым, што ў Глыбокім павінен быць добры музэй (пра гэта гаварылі амаль што ўсе прамоўцы), трэба намагацца вярнуць зь Вільні ўсе архівы пэрыяду Зах. Беларусі, што адносяцца да Дзісьненскага павету.

У пераліку пісьменьнікаў, што нарадзіліся ў Глыбокім і яго ваколіцах я некалькі месца прысьвяціў і Кастусю Акулу, дзе расказаў пра ягоныя творы ды зачытаў бачыну з "Гараваткі" (кніга 3), дзе апісаная панарама гораду Глыбокае, якой любаваліся Янук і Дуня. Апісаньне панарамы з "Гараваткі" я выкарыстаў у тэме аховы прыродна-гістарычнага ландшафту Глыбокага, адзначыўшы, што нашай глыбоцкай панарамай захапляліся шмат якія вядомыя пісьменьнікі й паэты і нават сам Напалеон і што ня трэба ў межах гораду і блізкіх ваколіцах яго распрацоўваць кар'еры, зьнішчаючы пагоркі. Выказаўся наконта вяртаньня спрадвечных назваў глыбоцкіх вуліцаў : Леніна — Замкавая, Маскоўская — Докшыцкая, Горкага — Дзісьненская, Кірава — Дворная і інш., а таксама выказаў неабходнасьць захаваньня старадаўняй забудовы, якая робіць наш горад адметным сярод іншых гарадоў рэспублікі. Даклад трываў каля 25 хвілінаў.

Трэба даць належнае арганізатарам канфэрэнцыі, якія нават паклапаціліся аб такой дробязі, як арганізаваць бясплатны абед і вячэру для гасьцей у глыбоцкім рэстаране. Я нават упяршыню даведаўся, што ў Глыбокім могуць так смачна гатаваць стравы.

*Ул. Скрабатун*

**Сёлета 3-га сакавіка спаўняецца 70 гадоў Старшыню Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў Маёру СЯРГЕЮ ГУТЫРЧЫКУ**

*Жадаем Табе, Сяргей, добрага здароўя, доўгіх гадоў плённага жыцьця й працы для свае сям'і, для Бацькаўшчыны Беларусі й для Злучаных Штатаў Амэрыкі.*

**Гэтта выказваем Табе падзяку за трывалае супрацоўніцтва з намі й падтрыманьне беларускага вэтэранскага часапісу.**

*Камітэт Сувязі Беларускіх Вэтэранаў і рэд. "Зважай".*

## СТАРАЯ ВОДКА Ў НОВЫХ БУТЭЛЬКАХ

КДБ мёртвы. Няхай жыве КДБ!

Афіцыяльна старая "імпэрыя зла" і жахлівы КДБ прапалі, але ў былым СССР бізнэс шпіянажу й нутраной бясьпекі прадаўжаецца. Можна гэта назваць старой водкай у новых бутэльках. Калішнюю імпэрыю КДБ падзялілі на дзьве часьці. Замежную разьведку зрабілі новай агэнтурай пад загадам Аўгена Прымакава, некалі гарбачоўскага экспарта ў справах Сярэдняга Ўсходу. Нутраную бясьпеку перадалі ў рукі КДБ кажнае рэспублікі. КДБ Расеі, што падпарадкоўваецца непасрэдна Барысу Елцыну, захапіла большую часьць калішняга савецкага апарату.

Вось тая панурая будучыня паводле маіх крыніцаў у расейскім КДБ:

1. У студзені бальшыня рэспублікаў высака падвысіць цэны на харчы й тавары шырпатрэбы. Каб аздаравіць гаспадарку й спыніць хранічны недахоп тавараў, скасуюць дзяржаўныя субсыдыі. Прыглушаныя жахам неўтаймаванай інфляцыі, абураныя, спажыўцы стаяць перад выбухам масавых бунтаў.

Згодна КДБ рэспублікі Расеі, неўзабаве пачнуцца спарадычныя бунты й бойкі ў гэтай Супольнасьці Незалежных Дзяржаваў (СНД), асабліва-ж у Расеі, Украіне й Беларусі. Ужо харчавыя бунты пачаліся ў Сібіры. Агульнага паўстаньня, чаго некаторыя баяцца, не павінна быць, але будуць мясцовыя пратэсты, якія хутка ператворацца ў антыўрадавыя паўстаньні. Насамперш будуць напады на склады харчоў і калгасы, дзе трымаюць запасы зярна й мяса. Таксама будуць нападаць на паліцыйныя і ўрадавыя ўстановы.

Расейскі КДБ найбольш устрывожаны тым, што да бунтароў могуць далучыцца адзьдзелы арміі і нутраной бясьпекі. У выніку таго дэманстранты могуць апанаваць мястэчкі й гарады, стварыць анархію, спыніць чыгуначны рух ды ізаляваць даставы прадуктаў да іншых часьцей СНД. Некаторыя-ж вайсковыя часьці, што могуць далучыцца да паўстанцаў, маюць тактычную ядзерную зброю. Ёсьць весткі пра хваляваньні ў Паўночнай Флёце, у руках якой знаходзіцца бальшыня падводных лодак зь ядзернымі ракетамі. Тое-ж чуваць і з Балтыйскага, Чарнаморскага ды Ціхаакіянскага Флётаў.

2. Барыс Елцын і іншыя калішнія камуністычныя лідары новых "дэмакрацыяў" СНД будуць выкліканыя на змаганьне са сваімі палітычнымі праціўнікамі. Ужо міні-путч супраць Елцына спрабаваў рабіць ягоны віцэпрэзыдэнт Аляксандра Руцкой.

3. Карупцыя і простае зладзейства ў новай СНД вырасьце да нязвычайных маштабаў. Рабуюць цяпер скарбы й музэі і накрадзенае складаюць у заходніх банках. За апошнія месяцы

камуністычныя чыноўнікі ўкралі больш за 300 мільёнаў даляраў золатам з цэнтральнага банку. На шантажы й хабары трымаецца маскоўскі гарсавет.

4. Цяжка верыць, што нават "совершенно секретные" паперы калішняга КДБ прадаюцца за мяжою. Амэрыканскае ЦРУ залажыла ў Маскве сваю кантору, заданьнем якое ёсьць закуп і сартаваньне тайнаў КДБ — здабыткаў дэкадаў разьведкі.

За апошні год шмат агентаў КДБ і ГРУ (мілітарнай разьведкі) перайшло на Захад. Выглядае, што скора развапіцца новая арганізацыя замежнай разьведкі і будзе чыстка. Ейны шэф Аўген Прымакаў, што ёсьць, як мяркуюць, жыдоўскага паходжаньня, абвінавачаны расейскім КДБ што ён быццам ёсьць агентам ізраэльскай разьведкі Масад. Яго вінаваціць за тое, што летась у вайне не памагалі Іраку дый за тое, што заходнія разьведкі ўжо пранікі ў СНД.

5. І апроч усяго найбольш сакрэтная і цэнная савецкая мілітарная тэхніка таксама прадаецца заходнім мілітарным і індустрыяльным агентам. Дэфіцытныя валютай рэжымы Гарбачова і Ельцына запраўды прадалі Злучаным Штатам цэлыя ваенныя сыстэмы. Летась за два з паловаю мільёны даляраў гатоўкі прадалі Пэнтагону найбольш цэнны скарб савецкай мілітарнай тэхналёгіі — магутнай сілы мініятурны рэактар, што даваў савецкім сатэлітам у космасе магчымасьць нават праз хмары бачыць ітрымаць на прыцэле амэрыканскія марскія судны. Амэрыка старалася стварыць ці ўкрасьці такі рэактар на працягу больш дзесяці гадоў.

Як доўга будзе трываць хаос і карупцыя, ніхто ня ведае. У бараках па цэлай Расеі патрыятычныя салдаты й афіцэры трацяць цярплівасьць, сумна разважаючы пра найбольш няслаўны час у гісторыі сваёй нацыі.

Eric Margolis, Toronto Sun, 2.1. 1992


COALITION FOR DESERT STORM

CERTIFICATE OF MEMBERSHIP

THE COALITION FOR DESERT STORM PROUDLY AWARDS THIS CERTIFICATE TO

**Commander Sergis Hutyrczyk**

In grateful recognition of your commitment and dedication to Operation Desert Storm. This certificate is presented in appreciation of your assistance in helping us make sure each man and woman stationed in the Persian Gulf knows that the vast majority of Americans are behind them. On behalf of our Co Chairmen, you are to be commended for your dedication to a bi-partisan foreign policy agenda for world peace and international security.

General Alexander M. Haig, Jr., USA (Ret.)
Co-Chairman

John M. Fisher
Administrative Chairman

Honorary Co-Chairmen
The Honorable Ronald Reagan
The Honorable Gerald Ford
The Honorable Richard Nixon

Congressional Co-Chairmen
Rep. George (Buddy) Darden (D-GA)
Rep. William L. Dickinson (R-AL)
Sen. Bob Graham (D-FL)
Sen. Howell Heflin (D-AL)
Rep. Duncan Hunter (R-CA)
Rep. Earl Hutto (D-FL)
Rep. [illegible] Laughlin (D-TX)
Sen. [illegible] McCain (R-AZ)
Rep. Robert Michel (R-IL)
Rep. [illegible] Mfume (D-MD)
Rep. G.V. (Sonny) Montgomery (D-MS)
Rep. John Murtha (D-PA)
Sen. Charles Robb (D-VA)
Sen. Richard Shelby (D-AL)

Пасьветка выданая Згуртаваньню Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, на імя камандзіра С. Гутырчыка, з падзякай за падтрыманьне летась ваеннае кампаніі супраць Іраку за вызваленьне Кувэйту. Пасьветку выдала Coalition for Desert Storm, **старшынём якое быў ген. Ал. Гэйг, калішні камандзір Паўночна Атлянтычнага Пакту, а сустаршынямі — прэзыдэнты, санатары й кангрэсмэны Злучаных Штатаў.**

## *ПАДЗЯКА*

*Дарагія Суродзічы. Ад імя свайго і маёй спадарыні Літвіны складаю Вам падзяку за маральную і фінансавую дапамогу ў маёй судовай справе.*

*Мы шчыра й сардэчна дзякуем беларускім арганізацыям а найболей суродзічам з Злучаных Штатаў і Канады. Запэўніваю, што пасьля таго, як скончыцца справа, усе ас… сумленнай волі будуць пададзеныя ў беларускай прэсе.*

*Беларускае шчырае дзякуй!*

**Хай жыве Рэспубліка Беларусь.**

*Сяргей і Літвіна Гутырчык*

## СЬВЯТА ДНЯ ГЭРОЯЎ

30-га лістапада й 1-га сьнежня летась Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў пад старшынствам маёра С. Гутырчыка, праз адборную дружыну вэтэранаў злажыла вянок кветак перад помнікам ведамых і няведамых гэрояў на беларускіх могілках у Іст Брансвіку, што недалёка Ню Ёрку. Усе магілкі былі ўпрыгожаныя бел-чырвона-белымі сьцяжкамі.

У нядзелю, пасьля літургіі ў царкве ў Гайленд Парку а. Васіль Андрэюк адслужыў паніхіду па загінуўшых змагарох на Слуцкім фронце й іншых франтох таго часу.

А 1-й гадз. пачалася акадэмія. Старшыня ЗБАВ ня змог прысутнічаць, але прыслаў пісьмовае прывітаньне. Было й прывітаньне ад Камітэту Сувязі Беларускіх Вэтэранаў ("Зважай") ды ад адзьдзелу ў Клійлендзе. Рэфэрат чытаў беластаччанін Міраслаў Пякарскі. З прамовамі выступалі А. Шукелойць і Я.Запруднік.

У канцэртнай частцы беластаччанін П.Скепка на клявішным сынтэзьніку выканаў патрыятычную песьню "У ганчарах", дэклямаваў свой твор ды сайграў яшчэ дзьве песьні: "Колькі ў небе зор", "Успамін" на ўласныя словы й музыку. Паэт, сьпявак і музыка П.Нядзьвецкі пад акампаньямэнт акардыёну прасьпяваў ім некалі для Беларускай Краёвай Абароны створаную маршавую песьню "Ідуць жаўнеры Беларусы", а таксама "У бой за Случчыну" і "Палесься чар" — на словы Арсеньневай і сваю музыку.

Маёр Тулейка вёў урачыстасьць, якую закончылі беларускім нацыянальным гімнам.

*Паводле "Весткі БАЗА", нр. 231*



*Сьцяжная варта падчас паніхіды. Зьлева направа: маёр М.Тулейка, лейт.А.Субота — амэрыканскі сьцяг, лейт. М.Абрамчык — вэтэранскі сьцяг, і лейт. Ул.Машанскі — беларускі сьцяг; з фронту — а.Васіль Андрэюк і Даніла Андрэюк.*

### ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Да 10-га студзеня сёлета на "Зважай" атрымана: С.Гутырчык — 40.00 дал., А.Грэбень — 33.00, А.Лашук — 38.50, Ч.Найдзюк — 5.75 Б.Даніловіч 28.00, П.Кулеш — 22.50, Кон Ворт — 11.50, Оля Качан — 30.00, А. Монід — 5.00, М.Раецкі — 36.00, Л.Трусэвіч — 56.00, Г.Шэйпак — 43.77, К. Мярляк — 28.50, Н.Жызьнеўскі — 5.50, К.Каранеўскі — 50, С.Гутырчык — 62.00, К. Акула — 12.00 М. Пракопчык — 20.00. Разам 528.02. Усім шчыра дзякуем.

*Яшчэ раз просім ня выпісваць чэкаў на "Зважай", а на рэдактара. Конта ў банку прыносіла нам непатрэбныя страты.*

### АСЬВЕТЧАНЬНЕ

**Гэтым паведамляю зацікаўленых, што ад нумару 2[45], за сьнежань 1991 году, бюлетэнь »Царкоўныя Навіны« з Таронта … выходзіць пад маёй рэдакцыяй.**

*К.Акула*